*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2018, № 3(25). Сакавік

## Слонімшчына і БНР

100-годдзе абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі адзначаецца 25 сакавіка пры прыхільным стаўленні ўладаў. Дата важная. Пасля доўгага часу няволі, пасля патопленых у крыві вызваленчых паўстанняў, вясной 1918-га беларусы заявілі пра свае права на самастойнае дзяржаўніцкае жыццё. І гэта падчас Першай сусветнай вайны, калі акупанты дзялілі і рабавалі нашу зямлю, калі мільёны суайчыннікаў апынуліся ў бежанстве на чужыне.




БНР не змагла ў тых умовах стаць сапраўднай дзяржавай. Хаця і былі тысячы вайскоўцаў, партызанаў, якія змагаліся за яе незалежнасць. Іх прыклад даваў сілы і веру наступным пакаленням беларусаў. Дзякуючы таму, што была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, бальшавікі пагадзіліся на стварэнне савецкай Беларусі. Наступным крокам стала аднаўленне дзяржаўнай незалежнасці 25 жніўня 1991 года.

*Працяг на ст. 3.*




*Фота: ByMedia.net*

ХРОНІКА

# Названая дата ўсталявання помніка Льву Сапегу ў Слоніме

Помнік дзяржаўнаму і вайсковаму дзеячу, канцлеру Вялікага Княства Літоўскага, слонімскаму старосце Льву Сапегу (1557 — 1633) будзе афіцыйна адкрыты ў Слоніме да 1 верасня 2019 года. Менавіта ў гэты дзень у нашым горадзе мусіць адбыцца рэспубліканскае свята “Дзень беларускага пісьменства і друку”. Пра гэта ў пачатку сакавіка паведаміў тагачасны старшыня Слонімскага райвыканкама Алег Таргонскі. Паводле яго слоў, ужо атрымана ўзгадненне Міністэрства культуры на стварэнне і ўстаноўку помніка, за-



планаванае правядзенне конкурсу эскізных праектаў. У бліжэйшы час прымуць рашэнне аб месцы яго ўсталявання. Раней улады аддавалі перавагу скверу па Першамайскай вуліцы.

Ужо праз некалькі дзён пасля заявы Таргонскага ў Слоніме з’явіўся новы старшыня райвыканкама — Генадзь Хоміч. Рэалізацыя шматпакутнага праекту па ўсталяванні ў горадзе помніка Сапегу дасталася яму ў спадчыну. Як вядома, спробы ўшанаваць у Слоніме памяць Льва Сапегі рабіліся з канца 1990-х гадоў.

●*СЧ*

# “Увесь свет у запалкавых карабках”

У сакавіку ў краязнаўчым музеі ў Слоніме прайшла выстава “Увесь свет у запалкавых карабках”, на якой была прадстаўлена калекцыя краязнаўцы Сяргея Чыгрына (на здымку). За некалькі гадоў ён сабраў вялізную колькасць




*Фота: slonves.by*

беларускіх і замежных запалак. Сярод іх ёсць і вельмі рэдкія асобнікі. Напрыклад, карабок, які быў выпушчаны ў Пінску падчас Другой сусветнай вайны. Надпісы на ім выкананыя на беларускай і нямецкай мовах.

●*ГГ*

# У краязнаўчым музеі адбылася прэзентацыя кнігі Васіля Герасімчыка

6 сакавіка ў Слоніме ў краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага адбылася прэзентацыя першай кнігі гісторыка Васіля Герасімчыка “Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда” (яна была выдадзена ў Гродне). Праца нашага земляка папулярызуе асобу кіраўніка вызваленчага паўстання 1863-1864 гадоў, аднаго з выдаўцоў легендарнай беларускамоўнай “Мужыцкай праўды”.

Напачатку прэзентацыі супрацоўнікі музея расказалі прысутным, што Васіль Герасімчык родам з вёскі Васілевічы Слонімскага раёна.




*Васіль Герасімчык*

Вучыўся ў мясцовай Парэцкай школе, скончыў Гродзенскі ўніверсітэт. Цяпер жыве ў Гродне.

Далей прэзентацыю вёў сам аўтар кнігі. Ён адзначыў, што кніга “створана на аснове матэрыялаў з архіваў і бібліятэк Літвы, Беларусі, Расіі”. Яна дазваляе зірнуць на асобу правадыра паўстання не толькі як на лідара і ідэолага нацыянальна-вызвольнага руху на нашых землях, але і як на звычайнага чалавека, на тое, як ішоў працэс фармавання яго поглядаў.

Васіль Герасімчык распавёў пра бацькоў, сясцёр і братоў Кастуся Каліноўскага, пра іх лёс, пра тых, хто быў побач з ім падчас паўстання. Цікава была паслухаць гісторыка і пра той час, калі Каліноўскі наведаў Слонімскі павет, раскідваў тут “Мужыцкую праўду”.

●*Сяргей Чыгрын*

# Слонімшчына і БНР

*Карта БНР, выдадзеная ў 1919 годзе ў Берліне.*

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Тэма Слонімшчыны і БНР дагэтуль нераспрацаваная і яна яшчэ чакае свайго даследчыка. У гэтым артыкуле паспрабуем акрэсліць асноўныя моманты.

З 22 верасня (9 верасня паводле старога стылю) 1915 года Слонім быў пад нямецкай акупацыяй. Значная частка мясцовых беларусаў (пераважна сялян) апынулася ў бежанстве ў Расіі. У горадзе і да вайны большасць насельніцтва складалі яўрэі, цяпер жа іх было больш за 90%. Яны ж мелі найбольшае прадстаўніцтва ў грамадзянскіх органах улады ў час, калі яны дазваляліся немцамі (у той жа гарадской управе, якую акупанты дазволілі ў сярэдзіне 1918-га).

Лінія нямецка-рускага фронту падзяліла Беларусь. Вільня, галоўны цэнтр беларускага руху, апынулася пад нямецкай акупацыяй. Мінск (Менск) заставаўся пад кантролем рускіх войскаў, а пасля — бальшавікоў. На Гродзеншчыне нямецкія акупанты дазвалялі беларускім актывістам займацца толькі асветай, напрыклад, ствараць беларускае школьніцтва. Была вялікая праблема з кадрамі, паколькі амаль усе настаўнікі эвакуяваліся на ўсход. У выніку ў беларускіх школах нярэдка даводзілася працаваць юнакам.

У лютым 1918 года нямецкія войскі занялі Менск, у якім ужо дзейнічалі органы ўлады БНР (яны мелі паўнамоцтвы ад Усебеларускага з’езду, разагнанага бальшавікамі ў Менску ў снежні 1917 года, і ў якім паўдзельнічалі прадстаўнікі



*Бел-чырвона-белы сцяг у цэнтры Менску, люты 1918-га.*

бежанцаў з Гродзенскай губерні), якія выйшлі з падполля пасля ўцёкаў бальшавікоў. Такім чынам Слонім, Менск і Вільня апынуліся па адзін бок фронту. 25 сакавіка 1918 года Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Ва ўмовах нямецкай акупацыі аднак будаваць незалежную дзяржаву было немагчыма. Неапраўдаліся спадзяванні часткі беларускіх дзеячоў на прызнанне БНР з боку Германіі, як адбылося з той жа Літвой (Летувой). Немцы не дазволілі фармаванне беларускага войска. Адзінае, чым маглі займацца органы ўлады БНР — гэта сацыяльныя, гаспадарчыя, адукацыйныя пытанні. У той жа час збіраліся сілы, наладжваліся сувязі. Магчыма, што і ў Слонім прыязджалі пасланцы Народнага Сакратарыяту (ураду) БНР.



*Герб "Пагоня" з вокладкі пашпарту БНР.*

**Слонімец — у апараце Народнага камісарыяту БНР**

Вясной-летам 1918 года ў Менску ў паштова-тэлеграфным бюро Народнага сакратарыяту БНР працаваў слонімец Сцяпан Ёрш. У архівах захаваліся дакументы, напісаныя ім. У Менск Ёрш трапіў у 1915 годзе ў выніку эвакуацыі. Пра яго вядома няшмат. У пачатаку 1915 года Сцяпан Фёдаравіч Ёрш быў чыноўнікам 4-га разраду, працаваў у паштова-тэлеграфнай канторы ў Слоніме. Ці выжыў ён у ваенныя гады і ці вярнуўся на малую радзіму, на жаль, невядома.



*Народны Сакратарыят (урад) БНР, 1918 год.*

У выдадзеным у 1998 годзе двухтомніку "Архівы БНР" ёсць дакументы, якія маюць дачыненне да слонімцаў. 28 красавіка 1918 года Народны Сакратарыят БНР выдаў пасведчанне Мікалаю Міська, што ён "беларус Горадзенскай губэрні, Слонімскага павету, Жыровіцкай воласьці, вёскі Русакова". Магчыма, гэта быў бежанец, які вяртаўся на Слонімшчыну. 9 ліпеня 1918-га Народны Сакратарыят напісаў ліст нямецкаму каменданту Менска з просьбай выдаць пропуск на праезд у Слонімскі павет Рыгору Данілевічу.

**Вясковец з Харашэвічаў: Давайце падтрымаем Раду БНР!**

Вясной-летам 1918-га Народны сакратарыят і Рада БНР ініцыявалі стварэнне ў рэгіёнах "беларускіх радаў (саветаў)". Меркавалася разбудаваць сетку і абапірацца на гэтыя структуры ва ўмовах нямецкай акупацыі. У канцы лістапада 1918 года Рада БНР распаўсюдзіла заклік ствараць "беларускія рады" ў сувязі з хуткім адыходам нямецкіх войскаў: "Усе, хто хоча бачыць сваю многапакутную Бацькаўшчыну-Беларусь вольнай, багатай і шчасьлівай, усе, хто хоча, каб працоўны народ Беларусі не знаў больш зьдзеку над сабою і няволі, няхай усюды злучаюць свае сілы, ствараючы на мяйсцох Беларускія Рады, і зьвязуючы іх з Радаю Рэспублікі. Толькі ім… належыць цяпер, да созыву Устаноўчага Сойму улада на мяйсцох, а не Земству, не чыноўнікам, не ўсякім самазванцам і чужынцам".

Як мы ўжо згадвалі, у Слоніме ў той час не было беларускіх актывістаў. Не дзіўна, што, калі восенню 1918 года на Слонімшчыну з Украіны вярнуўся Хведар Данілюк (ураджэнец Сурынкі), ён тут не затрымаўся. Данілюк у пачатку 1918 года ўдзельнічаў у стварэнні беларускіх вайсковых частак у складзе рускай арміі на Румынскім фронце, быў "нацыянальным камісарам корпусу". Калі б ён знайшоў у Слоніме аднадумцаў, то мог бы распачаць беларускую арганізацыйную дзейнасць. Аднак выйшла інакш.



*Хведар Данілюк*

“Тут застаў я сумны вобраз знішчэння, які пакінула па сабе вайна, — пісаў ва ўспамінах Хведар Данілюк. — Не маючы страхі над галавою і ніякіх перспектываў на будучыню, я быў вымушаны шукаць сабе іншага прыпынішча і накіраваўся ў Ваўкавыск”.

У Ваўкавыску Данілюк сустрэў беларускага дзеяча Цярэшчанку. Разам яны атрымалі дазвол нямецкіх уладаў на скліканне з’езду Ваўкавышчыны. На ім была абраная Беларуская Рада Ваўкавыскага павету, кіраўніком якой стаў слонімец. Пры ўдзеле Хведара Данілюка ў Ваўкавыску была створана беларуская міліцыя. Беларуская Рада “пераняла ў павеце ўсю цывільную ўладу”.

У Слоніме 9 снежня 1918 года таксама быў скліканы павятовы з’езд. З 36 дэлегатаў 27 прадстаўлялі вёскі павета. Невядома, ці захаваліся матэрыялы гэтага з’езду. Пакуль пра яго мы ведаем толькі з успамінаў ўдзельнікаў-бальшавікоў. Канспірацыйная бальшавіцкая арганізацыя ўтварылася ў Слоніме яшчэ ў канцы восені. Ужо было вядома, што немцы ў бліжэйшыя месяцы пакінуць горад, і бальшавікі спадзяваліся захапіць уладу. А пакуль яны змаглі атрымаць большасць у выканкаме павятовага з’езду.

Цікава, што сярод удзельнікаў з’езду, які прайшоў у Народным доме (цяпер на яго месцы тэатр), быў, як мінімум, адзін прыхільнік Беларускай Народнай Рэспублікі. Падчас дыскусіі падняўся вясковец з Харашэвічаў, барадаты мужчына. Ён даказваў прысутным, што павятовы з’езд павінен выказацца ў падтрымку Рады БНР, якая “цалкам адлюстроўвае інтарэсы беларускай нацыі”, абʼявіла пра незалежнасць



***Разбураныя будынкі на Замосці каля касцёла св. Андрэя, 1916 год.***

Беларусі. Аднак бальшавікі (у асноўным гэта былі мясцовыя яўрэі) выступілі супраць гэтага, у сваіх дэмагагічных прамовах ганьбілі Раду БНР. Хочацца спадзявацца, што даследчыкам удасца высветліць прозвішча беларускага патрыёта, які на павятовым з’ездзе ў Слоніме аказаўся ў меншасці.

**Як Слонім хацелі ўключыць у склад Літвы**

Рада БНР шукала любыя магчымасці для атрымання прызнання незалежнасці Беларусі і падтрымкі на міжнароднай арэне, для стварэння беларускага войска. Так у канцы 1918 года пачалося цеснае супрацоўніцтва Віленскай беларускай рады з літоўскай дзяржавай. У выніку пагаднення пачало дзейнічаць Міністэрства беларускіх спраў часовага літоўскага ўраду. У адным з яго дакументаў ад 20 студзеня 1919 года абвяшчалася, што Гродзеншчына, у тым ліку Слонімскі павет, з’яўляецца часткай літоўскай дзяржавы, а таму не падлягае кіраванню польскіх уладаў. Гэта была спроба стварыць у нашым рэгіёне пры падтрымцы ўладаў Літвы базу для барацьбы за незалежнасць БНР у яе этнаграфічных межах. У Гродне стварыўся Першы беларускі пяхотны полк, які вясной 1919-га, пасля адыходу немцаў, кантраляваў горад. Аднак польскія войскі ў пачатку лета таго года яго раззброілі.


***Беларускія вайскоўцы ў Гродне, 1919 год.***

Вясной 1919 года на Гродзеншчыне поўным ходам ішла польска-савецкая вайна, таму праект далучэння гэтай тэрыторыі да Літвы праваліўся (але ў Коўне марылі пра “Слонімскую зямлю” яшчэ ў 1920 годзе). Дарэчы, нямала беларускіх дзеячоў былі супраць такога “супрацоўніцтва” з літоўскімі ўладамі. Яны звярталі ўвагу на тое, што літоўскі бок не выконвае ўсе ўмовы, што сітуацыя больш нагадвае “анэксію”, а не супрацоўніцтва. Рада БНР спрабавала рэалізаваць і іншыя праекты, што ў выніку прывяло да яе расколу ў канцы 1919 года на Народную Раду БНР, якая знаходзілася на эміграцыі ў Літве, і Найвышэйшую Раду, якая трымала сувязь з польскімі ўладамі. Нельга забываць і пра той факт, што пад уплывам дзейнасці ўладаў БНР, у пачатку 1919 года ў Смаленску была абвешчаная бальшавікамі савецкая Беларусь.

**Слонім — цэнтр фармавання беларускага войска**

У пачатку 1919 года нямецкія акупанты пачалі пакідаць беларускія гарады і эвакуявацца ў Германію. Органы ўлады БНР не маглі запоўніць вакуум і ўзяць уладу ў свае рукі. Беларускае войска не было створана (беларускія вайсковыя аддзелы існавалі толькі ў Гродне), з усходу прасоўваліся бальшавіцкія вайсковыя фармаванні, з захаду — польскае войска. Са студзеня 1919-га на беларускай зямлі пачаліся баі паміж палякамі і бальшавікамі. А беларусаў мабілізоўвалі ў абодва войскі. З часам Рада БНР здолела паразумецца з польскімі ўладамі, якія ў кастрычніку 1919-га ўсё ж дазволілі стварэнне беларускага войска. Месцам фармавання “беларускіх нацыянальных аддзелаў” быў



*Пагоны беларускіх афіцэраў, 1919 г. Малюнак Віктара Ляхара.*
*Фота: novychas.by*

вызначаны Слонім. Была створана Беларуская Вайсковая Камісія, якая некалькі месяцаў займалася вярбоўкай добраахвотнікаў. Адзін з яе чальцоў, палкоўнік Гасан Канапацкі, быў прызначаны камандуючым беларускім войскам.



*Гасан Канапацкі*

БВК звярталася да беларускай моладзі: “Нашая Маці-Беларусь павінна быць Волнай, Непадзельнай і Незалежнай! Браты Беларусы! Хто можа з вас трымаць стрэльбу ў руках — станавіцеся ў рады нашага Беларускага Народнага Войска для абароны нашай Бацькаўшчыны!”.

Дэкрэт аб стварэнні БВК і беларускага войска выдаў “начальнік польскай дзяржавы” Язэп Пілсудскі, але ў гэтым яго падтрымлівалі не ўсе палітычныя сілы Польшчы. У выніку пачаўся сабатаж з боку мясцовых польскіх уладаў. Справы на ўсходнім фронце да лета 1920-га ў палякаў ішлі добра, практычнай патрэбы ў беларускім войску не было, праект стаў хутчэй прапагандысцкім. Да таго ж і беларускія афіцэры, заангажаваныя ў стварэнне вайсковых аддзелаў, бачылі стаўленне польскіх уладаў. Некаторыя з іх накіроўвалі добраахвотнікаў не ў “беларускае войска”, а ў беларускія партызанскія атрады новапаўсталай арганізацыі “Зялёны Дуб”.

Вядома, што ў канцы 1919 года ў Слоніме пачалося стварэнне “Першага беларускага батальёну”. Ён месціўся ў казармах па цяперашняй Чырвонаармейскай вуліцы. Салдатам выдава-лі польскае абмундзіраванне, на якім яны мелі герб “Пагоня”. Ёсць нават звесткі пра заснаванне ў нашым горадзе беларускай падафіцэрскай школы. Вясной 1920 года месцам фармавання беларускага войска, замест Слоніма, былі вызначаны Баранавічы. Таму аддзелы, якія на той час ужо былі створаны, перавялі туды.

*Дарога на Рышчыцы, цяперашняя Чырвонармейская вуліца. Справа бачым праваслаўную царкву, казармы, капліцу каля дарогі. Фота часоў Першай сусветнай вайны.*

**Пра фіктыўны “Усебеларускі з’езд”**

У беларускім нацыянальным руху быў вядомы авантурнік Аляксандр Бахановіч. Па сутнасці сваёй ён быў праціўнікам беларушчыны, беларускай незалежнасці, бачыў будучыню беларускай зямлі выключна ў складзе расійскай дзяржавы. Ураджэнец Гродзенскага павета, былы афіцэр рускай арміі, ён узначальваў Гродзенскі камітэт аб’яднаных грамадзянскіх арганізацый. У 1919 годзе Бахановіч прыдумаў байку пра “Усебеларускі з’езд”, які, нібыта, 13 студзеня прайшоў у Слоніме з удзелам прадстаўнікоў “усіх губерняў Беларусі”. Аляксандр Бахановіч сцвярджаў, што “з’езд” упаўнаважыў яго на стварэнне “ўраду”, які ён і ўзначаліў. Ён нават спрабаваў весці дзейнасць на міжнароднай арэне, увёў у зман рускага белага генерала Антона Дзянікіна. Прадстаўнікі органаў улады БНР выкрылі гэтую авантуру.

Зразумела, што ніякага мерапрыемства ў Слоніме Бахановіч не праводзіў, але наш горад згадваецца ў шматлікіх дакументах, якія датычаць гэтай справы.

**Друкарня для слуцкіх паўстанцаў**

У канцы 1920 года, калі на Случчыне беларускія вайсковыя часткі пад бел-чырвона-белым сцягам вялі баі з Чырвонай Арміяй, Найвышэйшая Рада БНР вырашыла абсталяваць у Слоніме друкарню. У ёй мусілі друкавацца адозвы і іншыя прапагандысцкія матэрыялы случчакоў. Польскія вайсковыя ўлады далі дазвол на гэты праект, але ўсё рабілася канспірацыйна, паколькі супярэчыла ўмовам перамір’я з Савецкай Расіяй. Друкарня аднак не была арганізаваная. Па-першае, баявыя дзеянні на Случчыне скончыліся да канца снежня 1920-га, па-другое,



*Макар Краўцоў*

адказны за рэалізацыю праекту Макар Краўцоў (Касцевіч), высланы Беларускай вайсковай камісіяй з Лодзі, да Слоніма не даехаў. У выніку беларускамоўныя лістоўкі Слуцкай брыгады стральцоў БНР памнажаліся на гектографах.

Слонім заставаўся кантактным пунктам паміж беларускімі антыбальшавіцкімі паўстанцамі і польскай разведкай і пасля Рыжскага міру. Былы слуцкі паўстанец Антон Бачко пакінуў успаміны, як дзесьці пад канец вясны 1921-га прыехаў у Слонім з Нясвіжу, як "афіцэр сувязі" з палякамі. Але апынуўся ў ролі закладніка — яго пасялілі ў гатэлі і трымалі пад наглядам. Толькі праз два месяцы Бачко здолеў вырвацца са Слоніма і выехаць у Клецк.

Антыбальшавіцкая барацьба ў той час ужо пачала затухаць, але нямала беларускіх патрыётаў працягвалі ваяваць яшчэ некалькі гадоў. Адным з іх кіраўнікоў быў ураджэнец Альбярціна Уладзімір Ксяневіч па мянушцы "Грач", начальнік Галоўнага штабу беларускай антыбальшавіцкай арганізацыі "Зялёны Дуб".

●*Сяргей Ёрш*



*Беларускія партызаны з атрада Лукаша Сяменіка, 1919 г. Фота: racyja.com*




*Паштоўка, 1921 год.*

# Слонімшчына на старонках “Інжынера чыгункі”

У міжваенны час у Польшчы выдаваліся дзясяткі спецыялізаваных часопісаў: для вайскоўцаў, паліцэйскіх, архітэктараў, лекараў, настаўнікаў… Нярэдка на іх старонках згадваліся Слонім і Слонімскі павет. 90 гадоў таму некалькі цікавых для слонімцаў здымкаў з’явіліся ў выданні “Inżynier Kolejowy: organ Związku Polskich Inżynierów Kolejowych” (1928, № 11). На адным з іх бачым будынак чыгуначнага вакзалу ў Слоніме. Фота зроблена з тыльнага боку. Можна разгледзець нават сквер каля яго. На іншым здымку — станцыя Азярніца. Адзначаецца, што будынак узведзены ў 1924 годзе.

●*Генадзь Гурскі*


Rok V. Warszawa, 1 Listopada 1928 roku. № 11 (51).

INŻYNIER KOLEJOWY

MIESIĘCZNIK POŚWIĘCONY SPRAWOM KOLEJNICTWA I KOMUNIKACJI.

Redaktor naczelny: *Inż. Stefan Sztolcman.* Redaktor odpowiedzialny: *Inż. Aleksander Pawłowski.*
Administrator: *Inż. W. Gąssowski.*
Członkowie Komitetu Redakcyjnego:
Inż. inż. *A. Frank, Z. Gubrynowicz, C. Kaczmarski, J. Kwiatkowski, Dr. A. Langrod, E. Raabe, J. Śniechowski,* inż. inż. *T. Świeściakowski, S. Wasilewski, R. Wisznicki i I. Winer.*

Adres Redakcji: *Warszawa, Żórawia 23 m. 9. Tel. 86-38.* Godzina 17—18.


*Dworzec w Słonimie.*


*St. Jeziornica. Dworzec wybudowany w 1924 r.*

## *СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ*

# Вёска прагла беларускага друкаванага слова


Chryścijanskaja

DUMKA

BIEŁARUSKI ČASAPIS — VYCHODZIĆ TRY RAZY U MIESIAC

Жыровічы, Слонімскага пав. Рэдакцыі “Хр[ысціянскай] Д[умкі]” і ўсім беларускім культурным працаўніком дзякуем і жадаем памыснай працы! За “Хр[ысціянскую] Д[умку]” шчыра дзякуем. Цешымся мы з яе шчырай душой. Надта ж хацелася б, каб яна ды часцей выходзіла і каб якнайбольш зварачвала ўвагу на нашы культурна-прасветныя патрэбы. Здаровага беларускага друкаванага слова наша вёска заўсёды прагне і адчувае гэтага, на жаль, вялікі голад.

**Жыравіцкі**


***Пошта ў Жыровічах, здымак міжваеннага часу.***

*Хрысціянская думка, 1938, № 21, 5 жніўня. С. 8. У арыгінале — на беларускай лацінцы.*

# Пра “Слонімскую Пагоню”



“Слонімскую Пагоню” упершыню пабачыў ў 1998 годзе на вокладцы часопіса “Спадчына”. Яе ўладальнік, паэт Сяргей Новік-Пяюн (1906 — 1994) на той час ужо памёр. На жаль, я не паспеў з ім пазнаёміцца, таму не бываў у яго мінскай кватэры і не бачыў там Пагоні…

У згаданай публікацыі ў “Спадчыне” паведамлялася: *“Герб Пагоня. Вышыты ў 1937-1938 гг. Кацярынай Пышко, сястрой паэта і вязня ГУЛАГу Сяргея Новіка-Пеюна. Захоўваўся на Слонімшчыне, потым — у мінскай кватэры паэта. Экспануецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры”.[1]*

З даведкі “Герб “Пагоня” з калекцыі С. Новіка-Пеюна (КП 13012)” вынікае, што выяву гербу ВКЛ Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры набыў у жніўні 1996 года:

*“1. Набыта ў Сувойдзь-Зубовіч Вольгі Мікалаеўны праж[ываючай] па адрасу г. Мінск, вул. К. Лібкнехта […]*

*Акт прыёму 27. 08. 96 г.*

*2. Вышыўка “Пагоня” — вышыта ў 1937-1938 годзе. Вышыта рознакаляровымі шаўковымі ніткамі на сукне вішнёвага колеру. У драўлянай раме пад шклом.*

*3. Вышыўка зроблена на сукне гладдзю.*

*4. Памеры 33,6 х 48,5 см*

*65,3 х 80,8 см”.*

У пачатку 1999-га “Слонімскай Пагоні” ў экспазіцыі ўжо не было, яе знялі і адправілі ў запаснікі…

У 1992 годзе журналіст Уладзімір Панада запісаў і апублікаваў кароткія ўспаміны Сяргея Новіка-Пеюна, праілюстраваныя той самай Пагоняй. У іх, між іншым, ёсць і такія радкі: *“…у 1938 г[одзе], пад час другой сваёй ссылкі, купіў у Слоніме плакат з надрукаванай на ім выяваю Пагоні — такія плакаты выдавалі і распаўсюджвалі літоўцы, якія жылі ў Польшчы. Паводле гэтага ўзору мая сястра вышыла на чырвонай тканіне сваю Пагоню, якая доўгія гады вісела ў нашай сялянскай хаце* [на вуліцы Агароднай, цяпер — Багушэвіча]”. [2]

Версія С. Новіка-Пеюна праўдападобная. У міжваеннай Літве (Летуве) не было прынята эталону дзяржаўнага гербу, дзяржаўныя ўстановы выкарыстоўвалі разнастайныя яго выявы. “Слонімская Пагоня” найбольш нагадвае “Пагоню”, намаляваную Антанасам Жмуйдзінавічусам (1876 — 1966). Верагодна, яе і распаўсюджвалі ў Польшчы.

Новік-Пяюн распавёў і пра далейшы лёс герба: *“Дык вось, тая Пагоня, якую вышыла сястра, захавалася і ў часе вайны, і пасля, дзякуючы таму, што знаходзілася ў Слонімскім раённым гістарычна-краязнаўчым музеі. Стваральнікам музея быў Іосіф Стаброўскі. Да самай вайны Пагоня была выстаўленая для агляду як гістарычны экспанат [3]. У час вайны, калі музей быў знішчаны і разрабаваны, той самы Стаброўскі, ратуючы экспанаты, сярод іншых захаваў і яе”. [4]*



Сястра Новіка-Пеюна Кацярына Пышко, якая вышыла "Слонімскую Пагоню", на час маіх пошукаў (1999 год) ужо памерла. Удалося пагаварыць з яе сынам, Міхаілам Пышко, які жыў у Слоніме. Ён паведаміў, што яго маці доўгі час хавала Пагоню ў сваёй хаце (вул. Замкавая, цяпер — Камсамольская): *"Пагоню хавала, пакуль не вярнуўся з лагеру. Сяргей тады забраў яе". [5]*

Зразумела, яна вельмі моцна рызыкавала. Калі б "Пагоню" знайшлі супрацоўнікі савецкай дзяржбяспекі, рэпрэсаваць маглі не толькі Кацярыну, але і ўсю сям'ю. Пра Кацярыну Пышко вядома, што яна была беларускай патрыёткай, працавала бібліятэкарам, працягвала вышываць.

Цікава, што сам С. Новік-Пяюн не згадвае, што "Пагоню" хавала яго сястра: *"Пасля вайны, калі я, рэабілітаваны, вярнуўся з чарговага зняволення — на гэты раз з Калымы, мы зноў сустрэліся са Стаброўскім. Зноў Пагоня апынулася ў мяне і да апошняга часу вісела на сцяне ў маёй кватэры. Час для беларушчыны быў не надта спрыяльны, і таму мала хто яе бачыў". [6]*

На наш погляд, "Слонімская Пагоня" была ў Стаброўскага толькі кароткі час пасля арышту Сяргея Новіка-Пеюна НКГБ у снежні 1944 года. У музеі ён яе захоўваць не мог, паколькі быў там звычайным супрацоўнікам, не начальнікам. Да таго ж савецкія ўлады маглі яго і зусім адтуль выгнаць. Таксама Язэпа Стаброўскага (былога палкоўніка рускай арміі) неаднаразова "трывожыла" дзяржбяспека.[7] Таму Стаброўскі, перад пагрозай арышту, мог перадаць вышыўку Кацярыне Пышко.

Вяртацца ў Беларусь з Расіі Сяргей Новік-Пяюн не хацеў да таго часу, пакуль не атрымае



***Кацярына Новік (Пышко). Здымак з архіўных збораў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Друкуецца ўпершыню.***

рэабілітацыі. Яе ён атрымаў у канцы 1958 года, а 27 красавіка 1959-га прыехаў у Слонім.[8] Ад таго часу "Слонімская Пагоня" ўжо знаходзілася ў яго. А ў 1991 годзе яна нават патрапіла на выставу ў Вярхоўны Савет Беларусі. Вось што ўспамінаў С. Новік-Пяюн: *"І вось калі пачалося абмеркаванне новага герба Рэспублікі, да мяне звярнуўся мастак Аляксей Марачкін, сказаў, што ў Вярхоўным Савеце будзе выстава праектаў Пагоні, і спытаў, ці не згадзіўся б я даць на выставу сваю.*

*…тое, што выява Пагоні, якую вышыла беларуская дзяўчына ў далёкім трыццаць восьмым годзе, цяпер вісела ў зале нашага парламенту, толькі падкрэсліла: наш рух не спыніўся".[9]*

Памёр Сяргей Новік-Пяюн 26 жніўня 1994 года ў Мінску.

●***Сяргей Дудаліч***

*[1] Спадчына, 1998, № 1(127).*

*[2] Новік-Пяюн С. Мой шчаслівы дзень // Спадчына, 1992, № 2. С. 2-3.*

*[3] Дакладна вядома, што "Слонімская Пагоня" выстаўлялася ў музеі падчас нямецкай акупацыі. Вось што пісаў часопіс "Новы шлях" у артыкуле "Слонімскі музей": "Асабліва заслугоўвае на ўвагу вышыты шоўкам на чырвоным сукне герб Пагоня праз сястру дырэктара музею Кацярыну Навічанку…" (Новы шлях (Рыга), 1943, № 19, кастрычнік).*

*[4] Спадчына, 1992, № 2. С. 4.*

*[5] Паведамленне аўтару Міхаіла Пышко ад сакавіка 1999 г.*

*[6] Спадчына, 1992, № 2. С. 4. Пра тое, што Пагоню "змог захаваць для яго сябар Стаброўскі", С. Новік-Пяюн пазней распавёў у гутарцы з карэспандэнткай газеты "Звязда". Гл.: Антонава Т. "Шматпаважаны Сяргей Міхайлавіч, вы ні ў чым не вінаваты…" // Звязда, 1993, 27 сакавіка.*

*[7] Вядома, што яго дапытвалі 12 снежня 1944 г., за два дні да арышту С. Новіка-Пеюна. Гл.: К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941 — 1944 гг.). — Мінск, 2008. С. 112. У 1947 годзе Язэпа Стаброўскага дапытвалі па справе выкрытай беларускай падпольнай арганізацыі "Чайка" (Паведамленне аўтару кіраўніка "Чайкі" Васіля Супруна ад 22 чэрвеня 1997 г.).*

*[8] Чыгрын С. Мастак Антон Карніцкі. Гісторыка-краязнаўчы і мастацтвазнаўчы нарыс. — Мінск: "Кнігазбор", 2009. С. 16, 24.*

*[9] Спадчына, 1992, № 2. С. 4.*




*Мінская кватэра С. Новіка-Пеюна. На сцяне вісіць “Слонімская Пагоня”. Фота — vytoki.net*

# Аэрафота Альбярціна і Дзеравянчыцаў стогадовай даўніны



*Альбярцін 100 гадоў таму.*

У пачатку сакавіка 2018-га на сайце allegro.pl з’явіліся рэдкія фотаздымкі Слонімшчыны, зробленыя немцамі падчас Першай сусветнай вайны. Найбольш з іх адносяцца да Альбярціна, а менавіта — да палацу графаў Пуслоўскіх. Аднак самае каштоўнае фота было зроблена над Альбярцінам з нямецкага самалёта. На ім каля возера можна пабачыць тагачасныя прадпрыемствы, а каля іх — баракі, палацу амаль не відаць за дрэвамі. Справа — чыгунка, забудова з двух бакоў ад яе. У правым верхнім куце бачны касцёл, а царквы ў той час яшчэ не было (дзіўна, але некаторыя “каментатары” гэтага фота яе там пабачылі і нават абазначылі!).

Два фота адносяцца да Дзеравянчыцаў. На адным з іх — аэрадром. Высвятляецца, што ён з’явіўся там не ў міжваенны час, а падчас Першай сусветнай вайны.



*Дзеравянчыцы*



*Аэрадром у Дзеравянчыцах.*

Згаданыя здымкі былі надрукаваныя ў невядомым нам выданні. Магчыма, гэта быў альбом. Прадавец выставіў на інтэрнэт-аукцыён асобныя старонкі з яго. На кожнай з іх па 2-3 фота. На тым жа сайце прадаюцца і іншыя старонкі з фотаздымкамі, якія не маюць дачынення да Слонімшчыны. На іх — беларускія і польскія гарады: Пружаны, Сталавічы, Чэнстахова, Кельцы, Радам. Магчыма, у будучыні з'явяцца новыя старонкі, стане вядома, што ж гэта за выданне, дзе і калі яно было надрукавана.

●*СЁ*



*У цэнтры — казармы і дарога на Рышчыцы (справа), злева — мост праз Шчару і дарога на Баранавічы.*

# Кінахроніка верасня 1939 года

З дзяцінства застаўся ўспамін — кінахроніка, паказаная ў навінах на маскоўскім тэлеканале ў савецкія часы. Танкі і падраздзяленні Чырвонай Арміі ўступалі ў Слонім у верасні 1939 года падчас Другой сусветнай вайны. Нядаўна ў БДАКФФД знайшоў гэтыя кадры, змясціў кінахроніку ў інтэрнэце.

Што мы на ёй бачым? Перамяшчэнне невялікіх падраздзяленняў Чырвонай Арміі, у тым ліку і некалькіх танкаў, у цэнтры горада. Гэта пераважна вуліцы Сянкевіча і Міцкевіча (цяпер гэта адна вуліца — Першамайская) ды іх наваколле. На жаль у кадр толькі крыху трапіў будынак кінатэатра “Мадэрн”.

Таксама бачым нейкі будынак з надпісам “1934 г.” на даху (відаць, у тым годзе яго пабудавалі ці зрабілі рэканструкцыю). Дыктар кажа, што гэта былы пастарунак польскай паліцыі. Магчыма, дзесьці на ўскраіне Слоніма? Добра было б дакладна высветліць гэтае пытанне. У кінахроніцы бачым і байцоў “рабочай гвардыі”. У тыя вераснёўскія дні хапала самасудаў, зверстваў. Магчыма, тым салдатам польскага войска, якіх вялі ў былы пастарунак, пашанцавала і іх адразу адпусцілі па хатах, а не адправілі на ўсход.

●*СЁ*










# Зноў пра будынак на "Замчышчы"

Год таму "СК" распавядаў пра вялікі дом, які стаяў на "Замчышчы" ў Слоніме яшчэ падчас Другой сусветнай вайны.* Пры польскіх уладах у ім дзейнічала яўрэйская гімназія, пры савецкіх — руская сярэдняя школа, школа медсясцёр. Дагэтуль некаторыя даследчыкі памылкова называюць гэты будынак "камяніцай Агінскага", які, нібыта, застаўся ад былога палацу. Нягледзячы нават на вядомыя апісанні апошняга. Насамрэч двухпавярховы дом быў пабудаваны на месцы былога палацу ў канцы XIX — у пачатку XX стагоддзя. Ён згарэў летам 1944 года падчас баёў за горад. Нядаўна ўдалося знайсці фота гэтага будынка, зробленае ўжо пасля вызвалення горада ад нямецкіх акупантаў, верагодна, зімой 1944-1945 гадоў. Ён стаяў без даху, акон і дзвярэй. Праз нейкі час было прынятае рашэнне аб яго зносе. Цяпер гэтае месца пустуе.

***Сяргей Ёрш***

**Ёрш С. Пра будынак на слонімскім "Замчышчы" // Слонімскі край, 2017, № 2(12). Люты. С. 12-13.*

Слонімскі край, № 2(12)

**Пра будынак на слонімскім "Замчышчы"**





**СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ**

# Просім новых беларускіх п'есаў*

Чапялёва ля Слоніма. У нас моладзь — дзяўчаты і хлопцы — бадай-што ўсе аматары-артысты, а беларускія прадстаўленні так часта ладзяцца, што мы не маем ужо бел[арускіх] п'ес, прыгодных для вясковае сцэны, якіх бы мы яшчэ не ставілі.

Прадстаўленні гэтыя мы ладзім ад імя польскіх арганізацыяў, бо свае бел[арускія] арганізацыі не пазваляюць нам залажыць** тыя цяжкія абставіны жыцця, у якіх мы знаходзімся.

Беларускіх пісьменнікаў просім пісаць новыя творы, якія б здатнымі былі для бел[арускай] сялянскай аматарскай сцэны і здаровым зместам сваім развесялялі, асвячалі і пабуджалі беларускі народ да лепшага, святлейшага, самастойна-незалежнага жыцця.

**Артыст-аматар**

Шлях моладзі, 1935, № 1. Студзень. С. 18.

Шлях Моладзі

...„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



**"СК" ужо пісаў пра патрыятычную моладзь з Чапялёва і тэатральныя пастаноўкі ў 1936 годзе. Гл.: СЁ. Як чапялёўская моладзь марыла пра стварэнне беларускага тэатру // Слонімскі край, 2016, № 3. Красавік С. 13*

***Гэта значыць заснаваць, стварыць.*

# Слонімскі гандаль у сярэдзіне 1920-х гадоў

"СК" працягвае публікацыю спісу фірмаў (пачатак гл. у № 1(23) за студзень, № 2(24) за люты 2018 года), якія ў 1925 годзе займаліся ў Слоніме гандлем, альбо працавалі ў сферы грамадскага харчавання.



*Каля Гандлёвых радоў у Слоніме.*

**"Lejzor Dworecki"**. Гандаль мясам. Год заснавання — 1898. Слонім, вуліца Школьны Двор (цяпер — Савецкая), 2. Уладальнік — Лейзэр Дварэцкі. Ён жыў у тым жа памяшканні.

**"Kejla Beszkin"**. Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1920. Слонім, Гандлёвыя рады, 114 (цяпер — сквер па Першамайскай вуліцы). Уладальніца — Кэйла Бэшкін. У дакументах пазначана, што яна жыла там жа.

**"Lejma Połoński"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1921. Слонім, вул. Андрэеўская, 14 (верагодна, цяпер гэта тэрыторыя рынку). Уладальнік — Лейма Палонскі. Ён жыў там жа.

**"Gitla Biełous"**. Гандаль абуткам. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца Парадная (цяпер — Першамайская, ніжняя яе частка), 14. Уладальніца — Гітля Белавус. Яна жыла ў тым жа будынку.

**"Szmuel Bliźniański"**. Гандаль збожжам. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Панятоўскага (цяпер — Пушкіна), 14. Уладальнік — Шмуэль Блізнянскі. Ён жыў там жа.

**"Minia Byteńska"**. Гандаль рэшткамі тканіны. Год заснавання — 1911. Слонім, Гандлёвыя рады, 122. Уладальніца — Міня Быценьская. Яна жыла на Школьнай вуліцы, 8.

**"Izaak Sokolowski"**. Гандаль вапнай. Год заснавання — 1900. Слонім, вуліца Андрэеўская, 14. Уладальнік — Ісаак Сакалоўскі. Ён жыў у тым жа будынку.

**"Basia Melcer"**. Кандытарскія вырабы. Год заснавання — 1910. Слонім, вуліца Уланская (цяпер — Савецкая), 3. Уладальніца — Бася Мельцэр. Яна жыла там жа.

**"Itka Zakin"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1912. Слонім, вуліца Панятоўскага, 39. Уладальніца — Ітка Закін. Яна жыла ў тым жа будынку.

**"Lejzer Blizniański"**. Гандаль скурамі. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча (цяпер — плошча Леніна), будка № 52. Уладальнік — Лейзэр Блізнянскі. Ён жыў на Ружанскай вуліцы, 28.

**"Marja Markiewicz"**. Гандаль свінінай. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, будка (нумар не пазначаны). Уладальніца — Марыя Маркевіч. Яна жыла на вуліцы Панятоўскага, 53.

**"Chana Brajnhendler"**. Кавярня-кандытарская, гандаль спажывецкімі таварамі і рыбай. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 53. Уладальніца — Хана Брайнхэндлер. Яна жыла на Падгорнай вуліцы (цяпер — Сінічкіна), 24.

**"Rywka Lubetkin"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Абалонь (цяпер — Агінскага), 50. Уладальніца — Рыўка (Рэбека) Любэткін. Яна жыла ў тым жа будынку.

**"Ancel Brewda"**. Продаж гадзіннікаў. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Сянкевіча (цяпер — Першамайская вуліца, верхняя яе частка), 1а. Уладальнік — Анцэль Брэўда. Ён жыў на Гандлёвай плошчы, 11.

**"Jenta Rubin"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца 3 Мая (цяпер — Чырвонаармейская), 43. Уладальніца — Ента Рубін. Яна жыла ў тым жа будынку.

**"Rejzla Oguszewicz"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 57. Уладальніца — Рэйзла Агушэвіч. Яна жыла на вуліцы 3 Мая, 99.

**"Izrael Wiernik"**. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Андрэеўская (цяпер — пачатак Чырвонаармей-

скай вуліцы), 2. Уладальнік — Ізраэль Вернік. Ён жыў там жа.

“**Lejzer Alpert**”. Гандаль спажывецкімі і галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца 3 Мая, 50. Уладальнік — Лейзер Альперт. Ён жыў у тым жа будынку.

“**Władyslaw Blizniuk**”. Гандаль свінінай. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, 28. Уладальнік — Уладзіслаў Блізнюк. Ён жыў на вуліцы Рэзкі II, 2.

“**Adam Wiśniewski**”. Рэстаран. Год заснавання — 1922. Слонім, вуліца Мінская (цяпер — Савецкая), 26. Уладальнік — Адам Вісьнеўскі. Ён жыў у Варшаве.

“**J. Rabinowicz, E. Batłana i S-ka**”. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1922. Слонім, вуліца Школьны Двор, 8. Уладальнікі — Якуб Рабіновіч, Гірш Лемкін, Эльяш Батлан, Эльяш Лунянскі і Беньямін Салавей. Усе яны жылі ў Слоніме.

“**Uniwersal**”. **M. Koss i A. Kowieński.** Гандаль роварамі, швейнымі і пішучымі машынкамі, запчасткамі да іх. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Касцюшкі (цяпер — Маякоўскага), 2. Уладальнікі — Моўша Кос і Айзік Ковенскі, абодва жылі ў Слоніме.

“**Pesza Wołkomirska**”. Кавярня-кандытарская і гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Віленская, 17. Уладальніца — Пэша Валкамірская. Яна жыла там жа.

“**Mowsza Szereszewski**”. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1924. Слонім, завулак Аптэчны, 6. Уладальнік — Моўша Шэрэшэўскі. Ён жыў у тым жа будынку.

“**Chana Bojarska**”. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Панятоўскага, 84. Уладальніца — Хана Баярская. Яна жыла там жа.




“**Szmuel Batchan**”. Кавярня і гандаль хлебам. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Школьная, 8. Уладальнік — Шмуэль Батхан. Ён жыў там жа.

“**Pesza Łuniańska**”. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Мінская, 54. Уладальніца — Пэша Лунянская. Яна жыла там жа.

“**Alta Reznik**”. Піўная. Год заснавання — 1892. Слонім, вуліца Бернардынская (цяпер — Васі Крайняга), 31. Уладальніца — Альта Рэзнік. Яна жыла ў тым жа будынку.

“**Chaja Rachmilewicz**”. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца 3 Мая, 62. Уладальніца — Хая Рахмілевіч.

“**Abram Szelubski**”. Гандаль фарбамі. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвыя рады, № 83. Уладальнік — Абрам Шэлюбскі. Ён жыў на Студэнцкай вуліцы, 15.

“**Ester Zabłocka**”. Кавярня-кандытарская. Год заснавання — 1912. Слонім, вуліца 3 Мая, 1. Уладальніца — Эстэр Заблоцкая. Яна жыла ў тым жа доме.

“**Wacław Żukowski**”. Гандаль спажывецкімі таварамі і кавярня-кандытарская. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Віленская, 22. Уладальнік — Вацлаў Жукоўскі. Ён жыў там жа.

“**Etla Zapolska**”. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 15. Уладальніца — Этля Запольская. Яна жыла на Доўгай вуліцы, 2.

“**Zofja Bazelowa**”. Гандаль свінінай. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвая плошча, будка (без нумару). Уладальніца — Зоф’я Базэлёва. Яна жыла на Панятоўскага вуліцы, 53.

“**Elka Brzeskin**”. Гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца 3 Мая, 6. Уладальнік — Элька Бжэскін. Ён жыў там жа.

“**Musza Łuska**”. Кавярня-кандытарская і гандаль спажывецкімі таварамі. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Панятоўскага, 15. Уладальніца — Муша Луская. Яна жыла там жа.

“**Jan Makarewicz**”. Кавярня. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 1. Уладальнік — Ян Макарэвіч. Ён жыў па вуліцы Доўгай (цяпер — Касманаўтаў), 34.

“**Josiel Rakowicki**”. Піўная. Год заснавання — 1905. Слонім, вуліца Сянкевіча, 6. Уладальнік — Ёсель Ракавіцкі. Ён жыў у тым жа будынку.

*Публікацыя* ●***Сяргея Ярша.***

*Заканчэнне ў наступным нумары*

# Пячаткі Рады БНР






Эміграцыйныя прадстаўніцтвы многіх народаў Усходняй Еўропы перадалі свае паўнамоцтвы ўрадам на радзіме ў пачатку 1990-х пасля развалу СССР і савецкага вайсковага блоку. А вось беларусы з гэтым не спяшаліся. У 1993 годзе з ЗША ў Беларусь прыязджаў тагачасны старшыня Рады БНР Язэп Сажыч. Пасля сустрэчы з прадстаўнікамі ўлады РБ ён зрабіў выснову, што перадаваць паўнамоцтвы яшчэ зарана. Сажыч не пераканаўся, што будуецца сапраўды нацыянальная беларуская дзяржава, а яе кіраўнікі стаяць на незалежніцкіх пазіцыях. У выніку Рада Беларускай Народнай Рэспублікі існуе на эміграцыі да цяперашняга часу. Яе старшынёй з'яўляецца Івонка Сурвіла, якая жыве ў Канадзе.

Нядаўна на сайце Рады БНР былі змешчаны фотаздымкі яе пячатак. Першая была створана яшчэ ў 1918 годзе ў Менску, другая — у 1920-я ў Празе. Падчас Другой сусветнай вайны гэтыя гістарычныя памяткі вывез з Чэхіі ў Францыю Мікола Абрамчык, які ў пасляваенны час аднавіў дзейнасць Рады БНР. На шчасце пячаткі захаваліся.

●*Генадзь Гурскі*

# Кніга пра Беларускую Народную Рэспубліку

Напярэдадні адзначэння 100-годдзя абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці БНР Інстытут гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук выдаў кнігу, прысвечаную гэтай важнай даце — "Беларуская Народная Рэспубліка — крок да незалежнасці: да 100-годдзя абвяшчэння: гістарычны нарыс" (Мінск: Беларуская навука, 2018. 157 с.). Выданне змяшчае шматлікія ілюстрацыі, у тым ліку карту БНР на вокладцы. На жаль, новых дакументаў апублікавана мала. Той жа пратакол Усебеларускага з'езду 1917 года ўжо добра вядомы.




Не пра ўсё аўтары рашыліся сказаць. Напрыклад, няма згадкі, што Рада БНР існавала і пасля 1925 года, дзейнічае яна і на сённяшні дзень. Не пазначана, хто забіў былога прэм'ера БНР Рамана Скірмунта восенню 1939-га (савецкія актывісты).

Наклад кнігі (500 асобнікаў) сведчыць пра тое, што перад гістарычнай навукай пакуль не ставіцца задача папулярызацыі БНР у масавай свядомасці. Але і адступлення да ранейшых ідэалагічных установак ужо не будзе. "Мы здолелі адбыцца як незалежная дзяржава… Неабходна таксама рабіць усё магчымае, каб не згубіць і ўмацаваць здабыты на мяжы XX-XXI стагоддзяў Беларуссю дзяржаўны суверэнітэт, пра які марылі многія пакаленні лепшых прадстаўнікоў беларускага народа", — адзначаюць аўтары.

●*ГГ*

**"Слонімскі край"** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару *Сяргей Ёрш*.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**
Спасылка на "СК" пры перадруку абавязковая.